

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE US POSTAGE PAID ADA. MI Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 1(25) Студзень 1996 January Год выд. 4

# НАРЭШЦЕ ВЫБРАНЫ ПАРЛАМЭНТ БЕЛАРУСІ...



Др. Вітаўт КІПЕЛЬ — дырэктар Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, мэцэнат, навуковы ды грамадзкі дзеяч, аўтар шматлікіх кніг, беларускі незалежнік і палымяны патрыёт.

Дарагі Вітаўт! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае беларускае газэты.



З вялікімі цяжкасьцямі, з рознымі перашкодамі і не заўсёды добрасумленна з агульнае колькасьці магчымых 260 месцаў, выбрана 198 дэпутатаў у Вярхоўную Раду Беларусі. Цяпер, хоць і не ў поўнай колькасьці, беларускі парламэнт можа распачаць сваю нармальную працу...

У нядзелю, 10-га сьнежня 1995 г. грамадзяне Беларусі ўжо ў другім туры дабралі патрэбную колькасьць дэпутатаў, каб нарэшце Вярхоўная Рада (Вярхоўны Савет) магла пачаць сваю афіцыйна-нармальную дзейнасьць.

З магчымых 260 месцаў у Вярхоўнай Радзе, 198 месцаў ужо запоўнены, такім чынам атрымаўся вымаганы правам кворум. Іншыя выбарчыя акругі надалей застаюцца безрэзультатнымі.

Як падае Цэнтральная выбарчая камісія, выбраныя дэпутаты рэпрэзэнтуюць 15 розных партыяў. Большасьць з іх — 96 (48,8%) дэпутатаў беспартыйныя /незалежныя?../ Партыя камуністаў мае 42 (16,7%) дэпутатаў. Іншыя, у большасьці дэмакратычныя партыі дамагліся ад 2 да 8-мі дэпутатаў. Восем партыяў выбралі толькі па адным дэпутату...

Як гэта ня сумна, але БНФ не правёў ніводнага дэпутата ў Вярхоўную Раду Беларусі. Гэта да цяпер, бо пры давыбарах сытуацыя можа зьмяніцца ў лепшы бок. Будзем спадзявацца... Кандыдаты ад БНФ прадстаўляюць сабою сапраўдных патрыётаў, інтэлігентаў і прафэсыяналістаў. Але ня трэба забывацца, што ў сваёй большасьці грамадзяне Беларусі, гэта людзі ўсебакова моцна адсталыя, застрашаныя і абыякавыя, гэта, так званыя, "савецкія беларусы" — "саўкі". Ці можна гэтых людзей хоць павярхоўна адукаваць, адшліфаваць ды навучыць думаць, пытаньне застаецца адкрытым...

Шчэцін, Г. Б.

## У 1996 ГОДЗЕ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БУДЗЕ ПРЫВАТЫЗАВАНА КАЛЯ 2500 АБ'ЕКТАЎ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАСНАСЦІ

**Паводле звестак БелаПАН, у будучым годзе пераважнай формай рэфарміравання дзяржаўнай уласнасці для сярэдніх і буйных прадпрыемстваў будзе пераўтварэнне іх у адкрытыя акцыянерныя таварыствы.**

Мяркуецца, што ў ААТ будуць пераўтвораны каля 60 працэнтаў усіх прыватызаваных аб'ектаў. Каля 30 працэнтаў — аб'екты малой прыватызацыі і ўстойліва стратныя прадпрыемствы — будуць прададзены праз аўкцыёны. З агульнай колькасці прыватызуемых у 1996 годзе прадпрыемстваў на долю прамысловасці прыпадаюць 484 аб'екты, будаўнічага комплексу — 264, транспарту — 96, гандлю, бытавога абслугоўвання і грамадскага харчавання — 563 аб'екты.



# ЖЫВЫЯ ГАЛАСЫ ДЫЯСПАРЫ

*"НАБАТ"*

**Уладзімір ДЗЯРЖЫЦКІ,**
старшыня беларускай грамады ў Малдове

— Як выглядае справа беларускасці ў Малдове? Калі ў 1940 годзе Бесарабія вярнулася ў састаў СССР, у час вайны і пазней туды перабраліся многія беларусы. Цяпер Малдова стала незалежнай дзяржавай. Востра паўстала пытанне мовы, а раманская мова даволі цяжкая для засваення славянамі. Для беларусаў старэйшага пакалення ўсё гэта стварае дыскамфортную сітуацыю. Па-першае, іх цягне дамоў, і пытанне вяртання ў Беларусь актуальнае для іх. Многія паехалі б. Але як набыць беларускае грамадзянства? Калі ў Малдову прыязджаў Прэзідэнт Лукашэнка, ён меў сустрэчу з беларускай дыяспарай, дзе вялася гаворка аб спрашчэнні працэдуры атрымання грамадзянства для беларусаў блізкага замежжа. Аднак нічога так і не вырашаецца. Акрамя хіба льготнага паступлення ў беларускія ВНУ дзяцей беларусаў з Малдовы.




**Янка ЖУЧКА,**
Бельгія

— Нас, беларусаў, вельмі мала ў Бельгіі засталося. Але пасля з'езда беларусаў, дзе мне давялося прысутнічаць, мы завязалі добрыя адносіны з нашай амбасадай, якая звярнулася да нас з просьбай скантактавацца з бельгійскімі прадпрыемствамі, каб дапамагчы фінансава Беларусі. Непрыемны і горкі асадак пакінуў у мяне адзін выпадак. Калі ў Бельгію меўся прыехаць адзін з кіраўнікоў дзяржавы, пасол папрасіў дапамагчы арганізаваць для яго сустрэчу на прадпрыемстве. Усё было дамоўлена, прызначаны час, але за дзень нам паведамляюць, што сустрэчы не будзе. Дырэктар бельгійскага прадпрыемства тады сказаў, што ўвогуле з беларусамі больш не хоча мець спраў.

**Янка ХАНЕНКА,**
старшыня грамадскага камітэта беларускага культурнага цэнтра ў Кліўлендзе "Полацак" (ЗША)

— Наш цэнтр быў пабудаваны ў 1990 годзе. Там ладзяцца ўсе нашы імпрэзы, спатканні, канцэрты. Крыху затрымаліся з будаўніцтвам царквы. Але вось-вось пачнём узводзіць яе... Скажу, што ў наш камітэт увайшло шмат моладзі, новых эмігрантаў з Беларусі, але яны працягваюць традыцыі старэйшага пакалення, што заклала ў Амерыцы свае асяродкі. Галоўны напрамак нашай дзейнасці — культурна-асветны.

Беларуская царква ўтрымлівае на свой кошт ужо некалькі гадоў хворага хлопчыка з Гомельшчыны. Амерыканская клініка бясплатна лечыць яго.

Мы гатовы супрацоўнічаць з усімі, хто не абыякавы да лёсу Беларусі.

**Айцец НАДСАН,**
святар, беларускі грамадскі дзеяч, Англія

— Чарговую дастаўку медыкаментаў для дзяцей я спалучыў з удзелам у сустрэчы ў Мінску. Скажу вам, я ўжо прыязджаю ў Беларусь добры дзесятак разоў. Нам усё цяжэй пераконваць людзей у Англіі, каб давалі грошы на лекі. Мауляў, калі ёсць сродкі на правядзенне ўсялякіх святаў, то знойдуцца і на хворых дзяцей.

У гэты раз мяне вельмі ўразіла становішча беларускай мовы і ўсяго беларускага на радзіме. Я прыязджаў сюды, калі быў Савецкі Саюз, але і тады не было такой нянавісці адзін да аднаго. Цяпер ёсць. Ідзе падзел грамадства на горад—вёску, на старэйшых—маладзейшых, бедных—багатых, адбываюцца рэлігійныя сваркі. Але нас, беларусаў, аб'ядноўвае большае, чым раз'ядноўвае. Мы павінны навучыцца любіць і шанаваць адзін аднаго.

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.





## Элізабэт ШРОДТЭР:
## "Месца Беларусі — сярод цывілізаваных і разьвітых краін Эўропы..."

"ЗВЯЗДА"

**Сярод 98 назіральнікаў амаль з 30 краін свету, якія прысутнічалі на паўторных выбарах у нашай рэспубліцы, гэта жанчына нічым асаблівым не выдзялялася. Як і іншыя, яна ўважліва слухала сваіх субяседнікаў, толькі зрэдку ўдакладняючы тыя ці іншыя дэталі размовы. Так ужо прынята ў міжнародных экспертаў: сваё важкае аргументаванае слова яны скажуць потым — у заключэннях, даведках, справаздачных дакладах і паведамленнях.**

**Перад ад'ездам Элізабет з Мінска з ёй пагутарыў наш карэспандэнт.**

**— У Беларусі вы не першы раз. Якія вашы ўражанні аб нашай рэспубліцы, яе людзях?**

— Зразумейце мяне правільна: уражанні вельмі супярэчлівыя. З аднаго боку — прыгожы край, шчыры і добразычлівы народ. А з другога — вашы людзі не ўпэўнены ў будучым. Яны хочуць больш выразна бачыць тыя накірункі, па якіх пойдзе краіна. І выбары ў Вярхоўны Савет павінны сказаць у гэтым сваё важкае слова.

**— Якім бачыцца вам узровень дэмакратыі ў нашай рэспубліцы?**

— Што датычыцца рэальных падзей, то, я думаю, апошнім часам назіраецца рух назад. Тыя праблемы, што паўсталі перад прафсаюзамі, а таксама ў ходзе падрыхтоўкі і правядзення выбарчай кампаніі, занепакоенасць ужо абраных дэпутатаў Вярхоўнага Савета, не могуць не хваляваць. Кароткі прамежак часу паміж двума турамі выбараў таксама непакоіць адносна будучыні парламентарызму ў Рэспубліцы Беларусь.

Цяжка нам, прадстаўнікам дэмакратычнага, цывілізаванага свету, зразумець пазіцыі друку, іншых сродкаў масавай інфармацыі вашай краіны. Мяне асабіста проста ўразіла слабая інфармаванасць вашых выбаршчыкаў аб кандыдатах у дэпутаты парламента. Свабода слова сродкам масавай інфармацыі не была прадастаўлена зусім, а аб палітычных дэбатах наогул не было ніякай гаворкі. Скажу вам шчыра: у дэмакратычнай дзяржаве так паводзіць сябе ніяк нельга.

У вашай краіне я была ў сакавіку, і тады была большая надзея на дэмакратычныя пераўтварэнні, чым зараз. Беларускі народ, адчуваецца, ведае праблемы дзяржавы, а вось аб тым, што трэба рабіць канкрэтна для паляпшэння эканамічнага і грамадска-палітычнага жыцця, — нават не можа меркаваць...

**— Спадарыня Шродтэр! Што вы можаце сказаць аб выбарах канкрэтна?**

— Уражанне аб выбарах засталося добрым. Беларускі народ хоча мець заканадаўчую ўладу, якая разам з выканаўчай, судовай уладамі плюс свабодная прэса абараняла б і адстойвала б ягоныя інтарэсы. Вельмі хочацца, каб і другі тур выбараў прайшоў паспяхова. А для гэтага сродкі масавай інфармацыі, палітычныя партыі і рухі, самі кандыдаты ў дэпутаты павінны ісці крок у крок з народам. Гэта павінна стаць пачаткам новых узаемаадносінаў іх у дзяржаве.

**— Вы сустракаліся з прадстаўнікамі вышэйшага кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь. Як вы лічыце: яны разумеюць праблемы дзяржавы і народа?**

— Адчуваецца, што кіраўнікі цяперашняга парламента, высокапастаўленыя чыноўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта, Кабінета Міністраў, міністэрстваў і ведамстваў, з якімі нам давялося сустракацца, занепакоены станам спраў у краіне. Яны гатовы быць больш актыўнымі ў ствара́льным працэсе.

**— Вы будзеце дакладчыкам па пытанню ратыфікацыі Пагаднення аб супрацоўніцтве паміж Еўрапейскім парламентам і Рэспублікай Беларусь...**

— Так. Асноўнай падставай для ратыфікацыі гэтага пагаднення стануць вынікі выбараў у вашай краіне. Гэта паведамленне я і падрыхтую, заходзячы з назіранняў, гутарак і сустрэч у час сваіх наведванняў Беларусі.

**— Наша дзяржава гатова да ўступлення ў Еўрапарламент?**

— Паміж Еўропай і Беларуссю павінны быць устаноўлены ўсебаковыя адносіны — у эканоміцы, палітыцы, культуры і г. д. Адносіны шырокія, з тым, каб Рэспубліка Беларусь і краіны кантынента знайшлі ўзаемаразуменне. На жаль, пакуль што гэтыя адносіны знаходзяцца на пачатку шляху.

**— 1996 года хопіць, каб уступіць нам у Еўрапарламент?**

— Можа і не хапіць. Для гэтага трэба вялікія намаганні, шчырае жаданне і практычныя крокі. Але я ўбачыла вельмі розныя адносіны і падыходы да ўсяго гэтага.

Беларусь з'яўляецца часткай Еўропы. І яна павінна мець вельмі цесныя зносіны з Еўропай. Імкненне рэспублікі да інтэграцыі з Расіяй — добрая справа, але ж і з усім светам трэба наладжваць цесныя кантакты. А рашучыя крокі да гэтага павінны быць зроблены вашым бокам. У напрамку развіцця дэмакратыі Беларусі трэба праявіць вялікую волю і імкненне.

**— І апошняе пытанне. На ваш погляд, у адносінах з Еўропай у Беларусі сёння лепшая сітуацыя ці горшая ў параўнанні з іншымі краінамі былога Саюза ССР?**

— Увогуле ў гэтым працэсе вы, скажу шчыра, зззаду. Аднак я, як і многія іншыя назіральнікі, верым: месца Беларусі сярод цывілізаваных і развітых краін нашага кантынента.

**Гутарыў Анатоль МЯСНІКОЎ.**

## У Вярхоўным Савеце 13-га склікання мяркуецца стварыць 13 пастаянных камісіяў

ЗВЯЗДА

**— Мікалай Фёдаравіч, хто ўваходзіў у групу распрацоўшчыкаў структуры будучага парламента?**

— Апроч мяне ў групу распрацоўшчыкаў «мадэлі» Вярхоўнага Савета 13-га склікання ўваходзілі дэпутаты Саковіч, Новікаў, Свірыд, Якабсон, Пракаповіч. Мы старанна вывучалі вопыт работы папярэдняга беларускага парламента і заканадаўчых органаў іншых дзяржаў, раіліся з вядомымі і аўтарытэтнымі заканадаўцамі, улічылі і меркаванне спецыялістаў інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і права. У выніку прыйшлі да высновы, што ў Вярхоўным Савеце 13-га склікання павінна быць 13 пастаянна дзеючых камісій. У прыватнасці, наступныя парламенцкія падраздзяленні: камісія па заканадаўству; камісія па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю; камісія па прамысловасці, будаўніцтву, энергетыцы, паслугах насельніцтву, сувязі і інфарматыцы (у саставе гэтай камісіі прадугледжана падкамісія па архітэктуры, будаўніцтву і жыллёва-камунальнай гаспадарцы); камісія па экалогіі і выкарыстанню прыродных рэсурсаў (падкамісія па праблемах чарнобыльскай катастрофы); камісія па аграрных пытаннях і сацыяльнаму развіццю вёскі; камісія па міжнародных справах; камісія па адукацыі, навуцы і культуры; камісія па працы, пытаннях аховы здароўя і сацыяльнай забяспечанасці насельніцтва (у гэтай камісіі мяркуецца стварыць дзве падкамісіі — па справах моладзі і па пытаннях сям'і, мацярынства і дзяцінства); камісія па дзяржаўнаму будаўніцтву, нацыянальных пытаннях і мясцоваму самакіраванню (падкамісія па нацыянальных пытаннях); камісія па правах чалавека, сродках масавай інфармацыі і сувязях з грамадскімі арганізацыямі; камісія па фінансава-крэдытнай і падатковай палітыцы; камісія па эканамічнай палітыцы; камісія па мандатах, рэгламенту і дэпутацкай этыцы (у саставе камісіі прадугледжаны дзве падкамісіі — па мандатах і дэпутацкай этыцы).

**— Як бачна, вы ўзялі за аснову структуру «старога» Вярхоўнага Савета, крыху перайначыўшы назвы камісій.**

— Сапраўды, мы лічым мэтазгодным захаваць «касцяк» былой структуры парламента. Але ж, як вы заўважылі, колькасць пастаянных камісій у «новым» парламенце будзе значна меншая. У «старым» Вярхоўным Савеце было 19 пастаянных камісій.

Апроч таго, мы прапанавалі зусім новую сістэму фарміравання Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Раней у гэты кіруючы орган парламента аўтаматычна ўваходзілі, акрамя спікера і яго намеснікаў, усе старшыні пастаянных камісій. На нашу думку, гэта не заўсёды спрыяла эфектыўнаму кантролю за дзейнасцю камісій Вярхоўнага Савета, бо кожная з іх мела ў Прэзідыуме своеасаблівае «лобі». І калі якая-небудзь камісія недапрацоўвала, Прэзідыум не заўсёды звяртаў на гэта ўвагу і не імкнуўся паправіць становішча. Відавочна, многія старшыні камісій асцерагаліся, што ў наступны раз «на дыване» будуць стаяць яны. Каб пазбегнуць такога ў рабоце будучага парламента, мы лічым, што членамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета павінны быць: спікер парламента, яго намеснікі, старшыні чатырох найбольш значных камісій (па заканадаўству; па фінансава-крэдытнай і падатковай палітыцы; па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю; па мандатах, рэгламенту і дэпутацкай этыцы), а таксама лідэры партыйных фракцый і аўтарытэтныя беспартыйныя парламентарыі, у выпадку, калі яны не будуць абраны на вышэйпамянёныя пасады.

Разам з Прэзідыумам, на нашу думку, павінен дзейнічаць Пагаджальны савет. Задачай такога савета павінна быць выпрацоўка прымальнага для большасці парламентарыяў рашэння па таму ці іншаму законапраекту, які плануецца вынесці на разгляд Вярхоўнага Савета. Гэта дазволіць пазбегнуць марнай траты часу пры абмеркаванні пытанняў на пленарных пасяджэннях, калі будзе відавочна, што пазіцыі найбольш уплывовых груп не супадаюць.

Дарэчы, 6 снежня адбылася сустрэча прадстаўнікоў дэпутацкіх фракцый і груп новага парламента са старшынёй Цэнтрвыбаркома Аляксандрам Абрамовічам, дзе мной былі прадстаўлены гэты праект структуры Вярхоўнага Савета 13-га склікання. І Аляксандр Міхайлавіч, і мае калегі пагадзіліся, што прапанованая намі «мадэль» парламента будзе спрыяць эфектыўнай працы заканатворцаў. Зразумела, што канчатковае рашэнне па гэтаму пытанню прыме толькі Вярхоўны Савет 13-га склікання на сваім пасяджэнні. Магчыма, хтосьці прапануе стварыць яшчэ якую-небудзь пастаянную камісію. Пажывём — пабачым.

**— Як вы лічыце, калі Вярхоўны Савет 13-га склікання збярэцца на сваё першае пленарнае пасяджэнне?**

— Я ўпэўнены, што 10 снежня будзе абрана дастаковая колькасць дэпутатаў для паўнацэннай заканатворчай дзейнасці. Таму мяркую, што на сваё першае пленарнае пасяджэнне новы парламент можа сабрацца ўжо напрыканцы снежня гэтага года. Спраў для вышэйшага заканадаўчага органа краіны назбіралася за час парламенцкага крызісу шмат. Трэба зацвярджаць бюджэт, прымаць шэраг іншых законаў і рашэнняў. Над праектам парадку дня першай сесіі дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання, дарэчы, ужо даўно працуе спецыяльная група парламентарыяў. У бліжэйшы час лідэры фракцый і каардынатары абласных дэпутацкіх груп маюць намер сустрэцца з Прэзідэнтам, каб выслухаць яго прапановы наконт першачарговых пытанняў, якія неабходна абмеркаваць парламенту.

**— А калі, крый Божа, не будзе абрана неабходных дзве трэці ад агульнага састава Вярхоўнага Савета?**

— Я ўсё-такі ўпэўнены, што выбаршчыкі і 10 снежня праявяць высокую грамадзянскую актыўнасць, і ў нас будзе паўнацэнны парламент. Ну, а калі неабходнай колькасці дэпутатаў абрана не будзе, на маю думку, прыйдзецца прасіць «стары» парламент, каб унёс папраўку ў артыкул 7 Закона «Аб Вярхоўным Савеце» і знізіў «планку» кворуму. Бо «давыбраць» неабходную колькасць дэпутатаў раней, чым увосень будучага года, я лічу, наўрад ці ўдасца. А парламент Беларусі патрэбен тэрмінова.

**Мікола ДЗЯБЕЛА.**

## Чаму не ідуць да нас замежныя інвестары?

Гэтая праблема зацікавіла грамадскі навукова-аналітычны цэнтр "Беларуская перспектыва". Каб высветліць такое пытанне ім была склікана міжнародная канферэнцыя, якая закончыла сваю работу ў мінулую пятніцу. У ёй прымалі ўдзел спецыялісты не толькі Беларусі, але і Расіі, Польшчы, Нідэрландаў... З грунтоўнымі дакладамі выступілі доктар эканамічных навук Ул.Тарасаў, прэзідэнт Акадэміі банкаўскага і фінансавага крызісу С.Багданкевіч, прафесар з Польшчы В.Касядоўскі, намеснік міністра эканомікі Рэспублікі Беларусь А.Тур, старшыня Камітэта па інвестыцыях Міністэрства эканомікі В.Дрозд, віцэ-прэзідэнт інстытута прыватызацыі і менеджмента Т.Данейка, старшыня Планавай камісіі Вярхоўнага Савета Б.Макейчанка, намеснік начальніка юрыдычнага ўпраўлення адміністрацыі прэзідэнта В.Лубоўскі і многія іншыя.

Нават з кароткага пераліку выступаючых бачна, наколькі прадстаўнічая была канферэнцыя. Меры па прыцягненню замежных інвестараў, выпрацаваныя ў ходзе двухдзённай дыскусіі, будуць перададзены ва Ўрад Беларусі для іх магчымага выкарыстання.

**Іван СЯРГЕЕЎ.**

***О БЫЛЫ ПАСОЛ РЭСПУБЛІКІ ПОЛЬШЧА Ў БЕЛАРУСІ ПРАФЕСАР ЭЛЬЖБЕТА СМУЛЭК, ПРАВОДЗЯЧЫ ЦЫКЛ ЛЕКЦЫЙ АБ БЕЛАРУСІ Ў ВАРШАЎСКІМ УНІВЕРСІТЭЦЕ,*** *на пытанне «Ці з'яўляецца Беларусь незалежнай краінай?» адказала: «Так, бо Беларусь з'яўляецца прадметам міжнароднага права, мае свой урад і парламент... Але розныя дзеянні беларускіх улад дазваляюць спекуляваць на тэму самастойнасці Беларусі...»*

Наш прэзідэнт на сустрэчы з журналістамі ў жывым эфіры: "Меня нікто не создавал! Меня сделал народ!"

А нас — няшчасных — бацькі... І ў гэтым уся трагедыя бацькоў і дзяцей, пра якую яшчэ калісьці выдатна напісаў Тургенеў...

З сярпом і молатам супраць мяча! Няшчасная геральдыка ў руках варвараў...

Здаецца, бальшавікоў агораю. Магчыма, Богдасць, перажыву камсамольцаў...
І ўсё ж піянеры ды акцябраты мяне даканаюць...

## БЕЛАРУСКІЯ НАВУКОЎЦЫ Ў ЧЫКАГА

Ад 9 да 13 кастрычніка гэтага году ў Чыкага адбыўся міжнародны сымпозіюм, у якім узялі ўдзел таксама і навукоўцы з Беларусі.

Усіх з Беларусі на сымпозіюм было запрошана 7 асоб, аднак прыбыло ў Чыкага толькі двух, гэта Сяргей Распопаў і Сяргей Лазарук.

Закватэраваньне і іншыя паслугі гасьцям з Беларусі забясьпечыла Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада (БАНР) у Чыкага. Найбольш да гэтага спрычыніліся Сп. Мікола Латушкін і Сп. Міхась Каленік, якія паналежнаму заняліся гасьцямі з Менску.

Сымпозіюм прайшоў вельмі добра і беларускія вучоныя засталіся задаволены ўсім, што яны сустрэлі ў Чыкага. М. Л.

## ХОЧАШ ВЕР — ХОЧАШ НЯ ВЕР...

Апошнім часам вельмі шмат заходніх інстытутаў і іншых дзяржаўных структураў паглыблена вывучаюць падзеі на Беларусі. Робіцца гэта спакойна, уважліва ды бесстаронна. Весткі і назіраньні наплываюць ад польскіх, балтыцкіх, украінскіх, расейскіх і інш. палітолагаў, эканамістаў ды журналістаў. Адбываюцца розныя сэмінары і канфэрэнцыі прысьвечаныя Усходняй Эўропе. На іх справа Беларусі займае адно з неапошніх месцаў. Справа ў тым, што на Беларусі, пасьля выбараў прэзыдэнта, назіраецца амаль адкрытая пэнетрацыя расейскіх імпэрыялістаў у дзяржаўныя структуры Беларусі, а асабліва ў акружэньне прэзыдэнта.

Нікому не сакрэт, што насільны рэфэрэндум і ўсе іншыя прэзыдэнцкія палітычныя, вайсковыя і дзяржаўныя дзеяньні, гэта работа людзей чужой Беларусі групіроўкі... Выглядае, што прэзыдэнт Беларусі ў іх ігры зьяўляецца толькі пешкай. Бытуюць разыходжаньні ў розных апініях, ці ведае пра гэта сам прэзыдэнт... Аднак большасьць наглядальнікаў схіляецца да думкі, што ён ведае і ня толькі ведае, але спрыяе скасаваньню сувэрнітэта і зьнішчэньню культуры і эканомікі Беларусі. Уся дзейнасьць дзяржаўнага кіруючага апарату накіравана на тое, каб ператварыць Беларусь у звычайную правінцыю Расеі на чале з губернатарам...

Лёс наканаваў прэзыдэнту стацца гістарычнаю асабістасьцю, але яго палітычныя, эканамічныя і дзяржаўныя дзеяньні ў напрамку прыніжэньня Беларусі як дзяржавы, робяць з яго гістарычным нічым...

Наплыў у Беларусь з розных краін былое савецкае імпэрыі усякіх цемрашалаў і прайдзісьветаў, утвараў у краіне даволі агрэсыўную, вялікадзяржаўніцкую групіроўку, якая абсалютна не прызнае незалежнае Беларусі, беларускае мовы, культуры і традыцыяў, і што самае страшнае, што гэтыя прышэльцы карыстаюцца послухам і падтрымкаю ўрадавых чыньнікаў у іх барацьбе супраць усяго беларускага. Прыхільнікаў аднаўленьня бальшавіцкага СССР на Беларусі сабралася шмат і рознае масьці ды нацыянальнасьці. Шкада беларускіх падаткаплацельшчыкаў, якія мусяць утрымоўваць гэтую "талпу" няпрошаных прышэльцаў...

Ну, а як на ўсё гэта глядзіць усходні сусед, Расея? Погляд на беларускія справы ў Маскве не адназначны. Там ведаюць, што палітычная дзейнасьць на Беларусі вывучаецца на захадзе вельмі ўважна... Там ведаюць, што пэнетрацыя расейскімі і прарасейскімі групіроўкамі дзяржаўных структур Беларусі раней ці пазьней усплыве наверх... і гэтая варожая Беларусі дзейнасьць антыдзяржаўных групіровак выдатна паслужыць Захаду ў справе пашырэньня НАТО на ўсход... І пашырыцца НАТО ня толькі на краіны былых сатэлітаў, але і на балтыцкія краіны ды Украіну...

У Эўропе насьпявае вельмі цікавая і зацяглая палітычная гульня, Беларусь у якой будзе "хлопцам да пасылак"...

Бэрлін, Я. Т.

# Беларусі патрэбна сталыпінская рэформа

**Мне даволі часта прыходзіцца сустракацца з многімі арандатарамі, фермерамі, кіраўнікамі гаспадарак. І ні пра што не вядзецца зараз столькі размоў, як пра зямельную рэформу. Але гэтая размова зводзіцца ў асноўным да таго, як хутчэй падзяліць зямлю паміж усімі жадаючымі, але пры гэтым ніхто не гаворыць пра механізм самой рэформы. А гэта ж чарговая драма для грамадства. Зямельная рэформа не зрушыцца з месца да таго часу, пакуль не будуць створаны мінімальныя ўмовы для рынкачных адносін.**

Патрэбны такія эканамічныя, арганізацыйныя і прававыя механізмы, з дапамогай якіх зямля будзе трапляць да тых, хто здольны найбольш эфектыўна яе выкарыстоўваць, няхай гэта будзе калгас, фермер або акцыянернае прадпрыемства.

Фермер — гэта не проста чалавек з зямельным надзелам. Яму патрэбны цэлы шэраг спецыяльных малагабарытных механізмаў, інфраструктура па абслугоўванню сялян і перапрацоўцы прадукцыі.

А што мы маем сёння? Рэаліі такія — вёскі палескай глыбінкі асуджаны на сацыяльнае няўладкаванне. Лічу, што эканамічная аснова іх адраджэння — у развіцці фермерства, арандатарства, стварэнні перапрацоўчых цэхаў і невялікіх прадпрыемстваў у калгасах, саўгасах на міжгаспадарчай аснове. Але для гэтага патрэбны парытэт цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю.

У бліжэйшыя гады, сцвярджаюць мае субяседнікі, нас будуць усё ж такі карміць не фермеры і арандатары, а калгасы і саўгасы, безумоўна. Але як карміць? Усякі думаючы чалавек не бачыць будучага за калгасамі. Гэта ж колькі калгасаў у вобласці пастаянна сядзяць закрэдытаванымі на шыі ў дзяржавы? Ужо сёння трэба падумаць, што з імі рабіць, з гэтымі банкрутамі.

Наш урад бачыць выхад з гэтага крызісу ва ўвядзенні новых відаў падаткаў з тым, каб зацыраваць вялізныя дзіркі ў бюджэце. У выніку мы становімся яшчэ больш голымі і працягваем руку кожнаму добраму дзядзьку з Захаду. Але гэта не дапамога. Нам ніяк не абысціся без ініцыятыўных, працалюбівых, жадаючых самастойна гаспадарыць на зямлі людзей. Іх толькі трэба вучыць працаваць на ёй, рыхтаваць іх да рынку, укараняць новыя тэхналогіі ў сельскагаспадарчую вытворчасць.

Між тым тэорыя і практыка рэформы зводзіцца пакуль што да дагматычнага супрацьстаяння — дзяліць ці не дзяліць зямлю. І кожны раз бакі пужаюць адзін аднаго і ўсіх нас тым, што мафія скупіць усю зямлю. Хаця і так відавочна, што ценявы зямельны рынак існуе і зараз. Ценявыя і мафіёзныя структуры знаходзяць розныя шляхі ўкладання грошай у зямлю пад выглядам укладання іх у розныя мерапрыемствы. Каб спыніць спекуляцыю зямлёй, трэба неадкладна вырашаць праблему стварэння нармальнага зямельнага рынку. Ён, як і любы іншы, мае патрэбу ў адпаведнай інфраструктуры. Яна павінна ўключаць у сябе, з аднаго боку, камерцыйныя зямельныя банкі і кампаніі, страхавыя таварыствы, арганізацыі па ацэнцы зямлі і нерухомасці. А з другога — адпаведныя дзяржаўныя інстытуты: дзяржаўны зямельны банк, органы па кантролю за землекарыстаннем, зямельныя суды, зямельныя падатковыя інспекцыі і г.д.

Гэтую інфраструктуру трэба ствараць ужо сёння. У іншым выпадку мы атрымаем у спадчыну дзікі зямельны рынак.

Дарэчы, работа па арганізацыі дзяржаўнага зямельнага банка ў нашай рэспубліцы не праводзіцца. Вось чаму ў нашых чыноўнікаў няма пэўных абавязкаў па правядзенню дзяржаўнай палітыкі ў галіне зямельнай рэформы. Тым, хто вырашыў гаспадарыць самастойна, без сялянскага банка не абысціся. У адваротным выпадку арандатар або фермер асуджаны на прымітыўную фізічную працу. Напрыклад, у часы Сталыпіна праз сялянскі банк земляробам выдаваліся доўгатэрміновыя пазыкі з мінімальным працэнтам і на будаўніцтва жылля, і на куплю цяглавай сілы, інвентару і г.д. І нават бясплатна сялянскія сем'і і ўвесь іх дамашні скарб перавозіліся на новае месца жыхарства за тысячы кіламетраў. Сталыпінскі ўрад не шкадаваў грошай на гэтую справу, таму што разумеў: выдаткі акупяцца. І не памыліўся. Расія, правёўшы зямельную рэформу, стала адным з буйнейшых пастаўшчыкоў збожжа на сусветны рынак, апярэдзіўшы сваіх магутных канкурэнтаў: ЗША, Канаду, Аргенціну. Не толькі збожжа, але і знакамітае сібірскае масла паспяхова канкуравала з галандскай і дацкай прадукцыяй. Вось што такое разумная аграрная рэформа. Менавіта яна стала магутным генератарам, узняўшы штогадовы прырост валавой прадукцыі прамысловасці і даходаў Расіі да 20 з лішнім працэнтаў. Гэты рэкорд эканамічнага скачка дагэтуль не пабіты ніводнай краінай свету.

А што робіцца цяпер у нас? Мы сядзім ля разбітага карыта. Замест таго, каб распрацаваць народ, рашуча праводзіць зямельную рэформу, вярнуць зямлі гаспадара, ідзе рабаўніцтва гэтага народа.

Сёння свабоду вызначаюць не толькі формы арганізацыі вытворчасці, але і прылады працы, узровень тэхналогій. Выжыванне ў жорсткіх умовах распаду гаспадарчых сувязей, эканамічнай нестабільнасці вытрымліваюць не многія фермеры. А гэта дыскрэдытуе саму ідэю будучага фермерства. Напрыклад, у выглядзе своеасаблівага дзяржзаказу банку можна даручыць забеспячэнне выкарыстання часткі зямель фонду пераразмеркавання, правядзенне (фінансаванне) ацэначных і землеўпарадкавальных работ, ільготнае крэдытаванне фермерскіх гаспадарак і іх асацыяцый. Банк вызначае патэнцыяльных партнёраў, увязвае інтарэсы, балансуе рэсурсы, праводзіць экспертызу і самастойную распрацоўку сумесных інвестыцыйных праектаў, ажыццяўляе фінансаванне і кантроль за іх рэалізацыяй, служыць гарантам дагаворных абавязацельстваў бакоў. Некаторыя грамадзяне адчуваюць цяжкасці з набыццём зямельных участкаў. Няма ўпэўненасці ў правільнасці афармлення карыстання ўчасткамі. Кожны раз землеўладальнік можа вылучаць новыя тыя або іншыя патрабаванні (пабудаваць дарогу, аддаць частку пабудаванага жылля і г.д.), якія не заўсёды можна выканаць, а значыць, патрэбны новыя перамовы. Адсутнічаюць аб'ектыўныя ацэнкі зямельных участкаў (дзяржаўная ацэнка і нарматывы, як правіла, могуць служыць толькі арыенціровачнымі велічынямі), а гэта — натуральны вынік адсутнасці зямельнага рынку.

**І што яшчэ трэба зазначыць пры вырашэнні аграрнай рэформы? Гэта пытанне аб уласнасці. Больш чым сямідзесяцігадовая гісторыя нашай дзяржавы паказала, што ва ўмовах манаполіі дзяржаўнай формы ўласнасці немагчыма стварыць эфектыўную эканоміку, арыентаваную на чалавека. Вось чаму сёння неабходна дэнацыяналізацыя ўласнасці, яе раздзяржаўленне. Суб'ект гаспадарання павінен валодаць і распараджацца сродкамі вытворчасці. На справе гэта азначае: зямлю — тым, хто яе апрацоўвае; заводы, фабрыкі і прадпрыемствы — тым, хто на іх працуе. Толькі гэты шлях выведзе з эканамічнага крызісу.** "Народная Воля"

У той жа час самі трымальнікі зямлі не заўсёды здольны выгадна ёю распарадзіцца. Скажам, калгасы і саўгасы, як галоўныя трымальнікі зямлі, дзейнічаючы самастойна, не могуць эфектыўна выкарыстаць многія яе ўчасткі. Не даходзяць рукі да невыкарыстоўваемай зямлі і ў мясцовых Саветаў. Словам, патрэбны кваліфікаваны і зацікаўлены пасрэднік. Зямельны банк можа стаць не толькі пасрэднікам, але і інвестыцыйным механізмам у правядзенні зямельнай рэформы. Зямельны банк дапаможа вырашыць спецыфічныя аграрныя праблемы зямельнай рэформы, зямля не будзе забірацца для фермераў ад калгасаў і саўгасаў незалежна ад рэальнай эканамічнай сітуацыі. Апошнія самі будуць здаваць яе (перадаваць права карыстання, закладваць, прадаваць) банкам, зыходзячы з гаспадарчай мэтазгоднасці. Фермерам не прыйдзецца "выбіваць" зямлю — яны змогуць яе купіць, у тым ліку і ў растэрміноўку. З'явіцца магчымасць праз банкі абменьваць зямельныя ўчасткі і перасяляцца ў іншыя раёны для вядзення фермерскай гаспадаркі. З увядзеннем закладу зямлі палегчыцца крэдытаванне землеўладальнікаў усіх катэгорый. Калі пасля заканчэння тэрміну дагавор паміж калгасам і банкам не перазаключаецца, права на зямлю ў поўным аб'ёме вяртаецца да калгаса. Ён можа заключаць аналагічны дагавор ужо непасрэдна з уладальнікам жылля і патрабаваць з яго адпаведную арэндную плату. У далейшым банк адпаведна будзе купляць зямельныя ўчасткі. Пэўны мінімум неэфектыўна выкарыстоўваемых зямель для патрэб грамадзян і фермерскіх гаспадарак павінен забірацца ў вызначаным законам парадку. Частку нерэнтабельных калгасаў і саўгасаў мэ-

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

тазгодна пераўтварыць у асацыяцыі фермерскіх гаспадарак і кааператывы.

Сёння ў калгасе селянін адлучаны ад сродкаў вытворчасці і вынікаў сваёй працы. Фактычна ён з'яўляецца наёмным работнікам. А таму ён абыякавы да таго, які прадукт стварае, якой ён якасці і ці патрэбны гэты прадукт увогуле. Гэта робіць свядомасць селяніна рабскай, пасіўнай, вядзе да раўнадушша ў працэсе працы, таму што ён не з'яўляецца гаспадаром гэтай уласнасці.

Думаю, што людзей неабходна рыхтаваць да зямельнай рэформы пастаянна. А для гэтага патрэбна агульнадзяржаўная сістэма навучання фермераў, арганізацыя для іх юрыдычнага ўсенавуча.

Пара ўсур'ёз на ўсіх узроўнях улады задумацца над гэтым. У іншым выпадку, яшчэ раз паўтаруся, мы не будзем мець гаспадара на зямлі, а атрымаем усе "асалоды" дзікага зямельнага рынку.

І што яшчэ трэба зазначыць пры вырашэнні аграрнай рэформы? Гэта пытанне аб уласнасці. Больш чым сямідзесяцігадовая гісторыя нашай дзяржавы паказала, што ва ўмовах манаполіі дзяржаўнай формы ўласнасці немагчыма стварыць эфектыўную эканоміку, арыентаваную на чалавека. Вось чаму сёння неабходна дэнацыяналізацыя ўласнасці, яе раздзяржаўленне. Суб'ект гаспадарання павінен валодаць і распараджацца сродкамі вытворчасці. На справе гэта азначае: зямлю — тым, хто яе апрацоўвае; заводы, фабрыкі і прадпрыемствы — тым, хто на іх працуе. Толькі гэты шлях выведзе з эканамічнага крызісу. Але ж у нашай краіне ёсць сілы, якія выступаюць супраць раздзяржаўлення ўласнасці. Фактычна левыя пракамуністычныя сілы заяўляюць, што манаполія дзяржаўнай уласнасці — справа добрая, толькі трэба лепш яе выкарыстоўваць. Якім жа чынам? Вельмі проста: забяспечыць паўсюдны ленінскі кантроль і ўлік. Але такімі мерамі нам не вырашыць гэтую праблему. Сітуацыя такая: альбо мы і далей будзем здзяйсняць лозунг, каб не было багатых, ці ўсё ж выберам іншы шлях, іншую стратэгію — "каб не было бедных". Гэта галоўны выбар сёньняшняга дня. І кожны, каму неабыякавы лёс нашай Бацькаўшчыны, павінен унесці свой уклад у яго здзяйсненне.

**Аляксандр ЗАРАНЮК,**
**намеснік старшыні**
**Беларускай сялянскай партыі.**




Малюнак П. КОЗІЧА.

Ніна ЗАХАРЭВІЧ *(Паставы)*:

***Беражыце мяне, людзі,***
***Я — ад продкаў рэдкі дар***
***Беларус у Беларусі***
***Сёння рэдкі экземпляр.***

**Ванкарэм Нікіфаровіч**
(Чыкага)

# *ПРЫЗНАНЬНЕ Ў ЛЮБОВІ*

Пяцьдзесят гадоў назад яшчэ зусім малым хлапчанём я ўпершыню адчыніў цяжкія дзьверы і ўвайшоў у гэты тэатр. Але можа толькі цяпер, калі тэатру імя Янкі Купалы споўнілася семдзесят пяць гадоў, я ўсьвядоміў, што ён, гэты тэатр, ёсьць для мяне. Бо менавіта ён даў мне мову, любоў да роднай Беларусі, разуменьне таго, што робіцца ў сьвеце. Тэатр навучыў мяне думаць. Да скону ён будзе для мяне найважнейшым сымбалам Бацькаўшчыны, увасабленьнем незьлічоных талентаў ды здольнасьцяў беларускага народу. Да скону я буду штохвіліны імкнуцца туды, у гэты Храм, бо ён дае надзею верыць у будучыню Беларусі.

Галоўнае багацьце тэатра, ягоны залаты фонд — гэта яго акторы. І сёньня многія ў Менску ды і іншых эўрапейскіх сталіцах ды культурных цэнтрах як цудоўную легенду ўспамінаюць пра бліскучую сцэнічную ігру такіх майстроў, як Глеб Глебаў, Барыс Платонаў, Ірына Ждановіч, Уладзімер Уладамірскі, Лідзія Ржэцкая, Уладзімер Дзядзюшка, Павал Малчанаў, Вера Пола, Леанід Рахленка, Зьдзіслаў Стома, Галіна Макарава. І сёньня ў некалькіх спектаклях бягучага рэпэртуару ў розных ролях выходзіць на сцэну дзевяностагадовая Стэфанія Станюта, па ранейшаму вытанчаная і зграбная, добрая і мудрая. Такога плённага сцэнічнага даўгалецьця яшчэ ня ведала сусьветная тэатральная практыка. Эстафету купалаўскіх зорак нясуць сёньня далей ды вышэй іх нашчадкі вось ужо трох і чатырох новых пакаленьняў цудоўных акторaў, што ўвабралі ў сябе ўсе лепшыя дасягненьні клясычных рускай, польскай ды іншых замежных школаў.

Усе гэтыя гады гэта быў перш за ўсё тэатр праўды, тэатр рэалістычнага адлюстраваньня жыцьця. Пераадольваючы магутнейшы прэсінг ідэйна-эстэтычных рэгламенттацыяў таталітарнага часу, Купалаўскі тэатр увесь час гаварыў пра простага чалавека, пра яго душу, пра яго надзеі і спадзяваньні. З яго сцэны гучала сусьветная клясыка, Астроўскі і Шэкспір, Мальер і Чэхаў, Лопэ дэ Вега і Талстой. Але вядучае месца ў яго рэпэртуары заўсёды займала нацыянальная беларуская драматургія, кожная прэм'ера была грамадзкай зьвяй. Так, ужо ў 1926 годзе камуністычныя ўлады забаранілі паказваць падрыхтаваны тэатрам спектакль "Тутэйшыя" па бліскучай камэдыі Янкі Купалы, якая адкрывала вялізны накірунак і стыль у сусьветнай літаратуры — драматургію абсурду. Савецкая антынародная бюракратыя, што нараджалася тады, высьмейвалася ўжо ў 1925 годзе ў спэктаклі Еўсьцігнея Міровіча па яго-ж п'есе "Кар'ера таварыша Брызгаліна". Пра трагедыю так званай калектывізацыі тэатр сьмела распавядаў ужо ў 1932 годзе ў спэктаклі "Бацькаўшчына" Кузьмы Чорнага...

З купалаўскай тэатральнай сцэны, як са стартавай пляцоўкі, узьляцелі і сталі потым вядомымі ў многіх краінах беларускія драматургі Кандрат Крапіва, Андрэй Макаёнак, Мікола Матукоўскі, Аляксей Дудараў, Уладзімір Бутрамееў... Мяняліся ўлады, мяняліся першыя сакратары Цэнтральнага камітэту камуністычнай партыі Беларусі, якіх прысылала Масква, а тэатр прадаўжаў сваю глыбінную, шматпакутную народную тэму і гаварыў пра адвечнае імкненьне людзей жыць адпаведна сумленьню, адпаведна Бібліі, — гэта значыць, жыць шчасьліва. Але забараняліся такія спэктаклі, як "Мілы чалавек" Кандрата Крапівы і "Хачу быць сумленным" Уладзімера Вайновіча. Вельмі часта тэатр сьмела ставіў і адкрываў гледачам тое, што забаранялася ў Маскве ды іншых сталіцах былых савецкіх рэспублік, напрыклад, "Забыты ўсімі" і "Дзівак" Назыма Хікмета, "Асабняк у завулку" братоў Тур, "Дабракі" Леаніда Зорына, "Сьвятая сьвятых" Іона Друцэ... Упершыню ў савецкай імпэрыі, калі гэта было строга забаронена, тэатр імя Янкі Купалы пачаў размову пра страшэнную трагедыю народа ў гады сталінскага генацыду, паказаўшы спэктакль "Пагарэльцы" па п'есе Андрэя Макаёнка, паставіўшы адзіную, напісаную спэцыяльна для тэатра п'есу Васіля Быкава "Апошні шанц" і хроніку пакутніка Гулагу Ігара Малеева "Надзежда Путніна". Усе вышэйназваныя спэктаклі паставіў Валеры Раеўскі, таленавіты вучань славутага Юрыя Любімава. Вось ужо амаль трыццаць гадоў Валеры Раеўскі пасьпяхова ўзначальвае мастацкае кіраўніцтва Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

Працуючы з такой таленавітай трупай, розныя рэжысёры настойліва шукалі новыя сродкі мастацкай выразнасьці, захоўваючы асновы рэалістычных традыцыяў купалаўскага тэатра. І ствараліся спэктаклі, якія доўгія гады заставаліся своеасаблівым эстэтычным і маральным узорам. Такія былі, напрыклад, "Апошнія" па М. Горкаму, пастаўленыя ў 1937 годзе таленавіцейшым акторам і рэжысёрам Міхаілам Зоравым. Ён загінуў у Менскім гета ў 1942-м, калі яму яшчэ не было і сарака гадоў... Далёка за межамі Беларусі ведалі пра непераймальнага ды непераўзыйдзенага Барыса Платонава ў ролі Эзопа ў спэктаклі па драме Г. Фігейрэду "Ліса і вінаград", пастаўленай Барысам Эрыным... У тэатры ўжо зьбіліся з ліку, колькі разоў сыгралі "Паўлінку", гэты дзівосны яскравы вадэвіль Янкі Купалы, які паставіў у эвакуацыі ў гады вайны, у 1944 годзе, у далёкім Томску рэжысёр Леў Літвінаў... Не толькі драматургія абсурду, але і такая сцэнічна-літаратурная плынь, як "новая хваля", пачыналася ў Менску на Купалаўскай сцэне ў пэрыяд брэжнеўскага застою і інтэрвенцыі ў Афганістане трывожным і гер спэктаклем "Шрамы" па п'есе рана, на жаль, пайшоўшага з жыцьця Яўгена Шабана /рэжысёр Андрэй Андросік/...



*Віктар Тарасаў і Анатоль Луцэвіч у спэктаклі па драме Аляксея Дударава "Вечар".*

Па-прарочы, у велічным храме цярпеньня і надзей жывуць чэхаўскія "Тры сястры" ў нядаўняй пастаноўцы Валерыя Раеўскага... Жыцьцёвая гісторыя простага селяніна Аўдзея /"Страсьці па Аўдзею" Уладзіміра Бутрамеева, рэжысёр Валеры Раеўскі/ ўзьнімаецца ў бліскучым выкананьні выбітнага актора Генадзя Аўсянікава да вышыні споведзі сьвятога пакутніка і сьцьвярджае неўміручасьць беларусаў... Малады рэжысёр Мікола Пінігін занова прачытаў памянёныя вышэй "Тутэйшыя" Янкі Купалы і стварыў хвалюючае відовішча, цікавае асабліва сёньня, калі праблема "чалавек і ўлада" зноў набыла асаблівую вастрыню ў Беларусі. Той-жа Мікола Панігін зусім нядаўна паставіў цудоўнае відовішча — спэктакль "Ідылія" па п'есе першага беларускага прафесійнага драматурга Вінцуся Дуніна-Марцінкевіча, якую савецкія ўлады не раілі ставіць на сцэне, маўляў, станоўчы герой — "эксплуататар", памешчык...

Пакуль жывы тэатр, будзе жыць і нацыя, будзе жыць Беларусь. І як-бы ні цяжка было сёньня, тэатр імя Янкі Купалы жывы, ён і сёньня застаецца ўзорам высокай духоўнасьці, тым асяродкам беларушчыны, якім народ можа толькі ганарыцца. І ня толькі беларускі народ, таму што цаглiны гэтага Храму помняць і захоўваюць сьляды і цеплыню далоняў рускіх і яўрэяў, латышоў і армян, украінцаў і грузінаў... Ён ніколі ня быў нацыянальна абмежаваным, таму што дэвізам тэатра заўсёды былі крылатыя словы Максіма Багдановіча: "Ня толькі свайму народу, але і ўсясьветнай культуры нясём мы свой дар".

І я вельмі ўдзячны Сафіі Саламянскай, былой мінчанцы, што жыве сёньня ў Нью-Ёрку, якая бачыла ўсе спэктаклі купалаўцаў пачынаючы з 1945 году, якая лепей за дактароў-мастацтвазнаўцаў ведае гісторыю гэтага тэатра і любіць тэатр і яго акторaў бязмежна, — удзячны за тое, што яна выступіла фундатаркай і фінансавала нашу паездку ў Менск на юбілейныя ўрачыстасьці з нагоды 75-годзьдзя тэатра імя Янкі Купалы. Мы прывезьлі на радзіму віншаваньні ад многіх, хто жыве сёньня ў Амэрыцы і ня можа забыць гэты тэатр. І хоць самыя ўрачыстасьці былі, на вялікі жаль, афарбаваныя ў афіцыйныя дзяржаўна-лукашэнкаўскія фарбы /ў залі віселі савецкія герб і сьцяг, выконваўся стары гімн/, гэта не зьменшыла ўсхваляванай радасьці ад сустрэч... Сэрца білася часта, сьціскаючыся ад болю за лёс многіх, каго я ня бачыў ажно тры гады...

Але тэатр жыве, і гэта — галоўнае. Для мяне назаўсёды сымбалам роднага Менску, сымбалам радзімы застанецца вось гэты старадаўні будынак у Цэнтральным сквэрыку, невялічкі ў параўнаньні з іншым, вялізным, што побач, цераз вуліцу. І як сымбал духоўнага супрацьстаяньня яму ва ўсе часіны, незалежна ад таго, хто там, у тым будынку гаспадар.

**"Беларускі Дайджэст" чакае**
**Вашае ахвяры на Выдавецкі Фонд!!!**

Беларусь чужымі вачамі

# “У вас ёсць пачуццё годнасці...”

Народная газета

***Кожная краіна цікавая па-свойму. Узрастае цікавасць у свеце і да Беларусі. Усё часцей прыязджаюць да нас замежныя госці. Іх свежы погляд на наша жыццё часам вельмі павучальны, бо яны заўважаюць тое, на што мы нават не звяртаем увагі. Нядаўна ў нашай рэспубліцы пабываў французскі журналіст Іў Жуанік, каб расказаць сваім чытачам пра зусім не вядомую для іх краіну. З ім гутарыць наш карэспандэнт.***

**— Наколькі мне вядома, вы ў нашай краіне ўпершыню, хоць маеце ўжо багаты журналісцкі вопыт. Што вас прывяло сюды, і наогул, адкуль і калі вы даведаліся, што існуе такая дзяржава Беларусь?**

— Да нядаўняга часу мы ведалі толькі адну краіну — СССР. Пра яе ў нас пісалі даволі скупа, і я вырашыў сам даведацца пра яе больш. Злавіў аднойчы перадачу радыёстанцыі “Голас Масквы”, стаў слухаць яе перадачы рэгулярна. З іх даведаўся, што існуе і беларуская рэспубліка як нейкі рэгіён СССР. Пасля распаду Савецкага Саюза меркаваў, што Беларусь засталася ў складзе Расіі. Потым, калі да нас у Францыю сталі прыязджаць на аздараўленне дзеці з Беларусі, калі я сустракаўся з суправаджальнікамі дзіцячых груп, даведаўся, што Беларусь цяпер — цалкам самастойная дзяржава, што яна вельмі пакутуе ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Захацелася ўсё пабачыць на свае вочы і расказаць пра гэта нашым чытачам. Бо, на вялікі сорам, нават сярод маіх блізкіх і даволі адукаваных знаёмых ніхто не ведае, што ёсць такі горад Мінск, а Беларусь яны па-ранейшаму лічаць расійскай правінцыяй. Думаю, такіх у Францыі пераважная большасць, акрамя тых, хто спецыяльна цікавіцца развіццём падзей на тэрыторыі былога СССР. Праўда, калі я збіраўся ад'язджаць, якраз адбыўся інцыдэнт з паветраным шарам, і мая маці вельмі затурбавалася: “Куды ты едзеш, там жа па спартсменах страляюць?”. Аднак я не змяніў свайго рашэння, бо ці мала што дзе адбываецца. За сваё журналісцкае жыццё я чуў пра іх сотні разоў.

**— У нас усталявалася думка, што смерць амерыканскіх паветраплавальнікаў выклікала вялікі рэзананс ва ўсім свеце, што менавіта пасля гэтага выпадку многія за мяжой упершыню даведаліся пра Беларусь.**

— У гэтым не ўпэўнены. Можа, у Злучаных Штатах так і было. У нас толькі аднойчы прамільгнула кароткае паведамленне ў некалькі радкоў у газетах і інфармацыйных праграмах радыё і тэлебачання, якое ўспрымалася як простае паведамленне пра здарэнне. Магчыма, каб такое здарылася з французамі, шум сапраўды быў бы вялікі. А так у Беларусі гінуць амерыканцы, у іншай краіне — немцы, у Афрыцы — палякі... Чаго цяпер не здараецца на свеце...

**— Што вам найбольш кінулася ў вочы за час камандзіроўкі ў Беларусь?**

— Я прыляцеў у Мінск рэйсам авіякампаніі “Люфтганза” з Франкфурта. Вядома, зручней было б з Парыжа, але магчымасці такой не было. Накіраваўся сюды па ўласнай ініцыятыве і вельмі ўдзячны, што мне дапамог арганізаваць паездку ваш Дом дружбы (Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. — **І.Г.**). Звярнуў увагу на тое, што мяне на мытні наогул ніхто не правяраў — зірнулі ў дэкларацыю і ўсё. А побач літаральна перетрасалі чамаданы. Можа, справа ў тым, што багажу ў мяне фактычна не было, але дэкларавалася вялікая сума ўвозімай валюты. Да чалавека з вялікімі грашыма, відаць, і адпаведная павага.

У горад дабіраўся на таксі. Па-першае, не ведаю мовы, па-другое, не было беларускіх грошай на білет, а абменны пункт ужо не працаваў (было гадзін 16). У іншых міжнародных аэрапортах валюту можна абмяняць у любы час сутак. Таксісты вашы англійскай мовы не ведаюць, але лічаць на ёй няблага. З мяне папрасілі 50 долараў, каб прыехаць з аэрапорта ў цэнтр. Я ведаў, што ў вас гэта амаль што сярэднямесячны заробак, і не згадзіўся. Таксіст ахвотна давёз мяне і за 25 долараў.

Пасяліўся я ў аднапакаёвым нумары гасцініцы “Юбілейная” за 50 долараў у суткі. Як я зразумеў, гэта ардынарны гатэль, але для мяне камфорт не галоўнае. Толькі вось паснедаць не заўсёды ўдавалася, бо буфет адчыняўся толькі ў 8 гадзін раніцы, а часта даводзілася выязджаць раней. Было не вельмі цёпла, але жыць можна.

Неяк забег у бістро “Хвілінка”, што каля ГУМа. У нас такіх бістро проста не можа быць. Цёмна, шэра, маркотна... Звычайны француз без спецыяльнага абслугоўвання ці суправаджэння, відаць, не змог бы вытрываць у вас і трох дзён. Каб нават выпіць кавы, трэба яшчэ ведаць, дзе знаходзіцца той падвал ці закутачак — спецыяльных карт-даведак у гатэлі не даюць. У нас жа кафэ і бістро літаральна на кожным кроку.

Дрэнна, што ў вас нельга пазваніць з бара. На цябе сварацца, калі ты зазірнеш у падсобку і пытаеш, дзе тэлефон. Калі я іду ў бар у сябе, я кажу сябрам, дзе я, яны могуць пазваніць туды, і мяне паклічуць да тэлефона.

Даводзілася бываць у вашых супермаркетах, аднойчы купляў гарэлку, цыгарэты і кветкі. Нязвыкла неяк стаяць то ў адной, то ў другой чарзе. Нязручная сістэма. У нас бяры цялежку, выбірай сам любы тавар з паліц і разлічвайся пры выхадзе. Хутка. У вас чамусьці думаюць, каб зручна было не пакупніку, а прадаўцу.

Таўкучка на вуліцах мяне не здзівіла, бо гэта ёсць у любым вялікім горадзе. Калі паціху гуляў па праспекце, кінулася ў вочы, што людзі ў вас больш спакойныя, не такія эмацыянальныя, як у нас, а жанчыны — прыгажэйшыя, чым на Захадзе. Не нейкія канкрэтныя, а наогул — жаночае асяроддзе на вашых вуліцах прыемнейшае, чым у Францыі.

Даводзілася мне сустракацца з палітыкамі. Яны чамусьці амаль ніколі не ўсміхаюцца. Гутарыў і з многімі простымі людзьмі. Ствярылася ўражанне, што яны некага баяцца, гавораць асцярожна, скавана, азіраюцца па баках, быццам іх нехта праследуе.

Аднак агульнае ўражанне, якое засталося ад беларусаў: нягледзячы на неймаверна цяжкае жыццё, яны не горбяцца і не раскісаюць, не запабягаюць перад іншаземцамі і трымаюцца, хоць часам і насцярожана, але з пачуццём годнасці.

**— У заключэнне крыху пра сябе...**

— Па адукацыі юрыст. Працую ў рэгіянальнай газеце “Нор Эклер”, якая распаўсюджваецца ў заходніх дэпартаментах і часткова ў Бельгіі. Тыраж — 100.000 экземпляраў. Распаўсюджваецца праз прыватных дыстрыб'ютараў. Зарплата — каля 3000 долараў у месяц. Ганарару не атрымліваю. Маю службовы аўтамабіль. Адначасова працую на агульнафранцузскую газету “Ля Монд”. Там плацяць каля 600 долараў у месяц і яшчэ атрымліваю ганарар за падрыхтаваныя артыкулы.

**— Цікава, як бы вы адрэагавалі, калі б ваш прэзідэнт выказаў незадаволенасць дзейнасцю журналістаў і паабяцаў з імі паквітацца?**

— Нейкае абсурднае пытанне. Такога нават выдумаць нельга.

**— А ўсё ж, калі б...**

— Ну, гэта была б сапраўдная рэвалюцыя. Пра такую падзею газеты пісалі б больш, чым пра самыя страшныя забойствы, і не пакінулі б на прэзідэнце жывога месца,ператрэсшы на сваіх старонках кожны кавалачак біяграфіі яго, родных, блізкіх і знаёмых так, што ён сам уцёк бы ў адстаўку, не дачакаўшыся канца гэтай вайны. Справа ў тым, што нашы газеты не залежаць ні ад прэзідэнта, ні ад парламента, ні ад суда, ні нават ад палітычных партый (акрамя заняпаўшай “Юманітэ”). Іх утрымліваюць моцныя фінансава-прамысловыя групы, якія не па зубах ніякаму прэзідэнту.

**— Дзякуй за гутарку. Калі зноў у Беларусь?**

— Думаю, месяцы праз два. Бо з першага разу зразумець, што ў вас цяпер адбываецца, даволі цяжка.

**Гутарыў Іван ГЕРАСЮК.**

## ПАСЛОМ У ГЕРМАНІІ БУДЗЕ ПЁТР БЯЛЯЕЎ

Не засталося месца для чутак аб назначэнні беларускага пасла ў Германіі. Як паведаміў у час праведзенага ў МЗС рэспублікі брыфінгу кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Беларусі Уладзімір Сянько, нашу дзяржаву ў ФРГ будзе прадстаўляць былы намеснік міністра замежных спраў Пётр Бяляеў. Нягледзячы на тое, што яго кандыдатура ўжо даўно была зацверджана указам Прэзідэнта, у адпаведнасці з існуючымі правіламі прозвішча пасла назвалі толькі пасля атрымання з Германіі агрэману, які днямі прыйшоў у МЗС нашай рэспублікі.

**БЕЛТА.**

## Прадбачлівыя жартаўнікі

**У час вучобы Адама Мальдзіса ва універсітэце яго аднакурснікі напісалі і павесілі такую аб'яву: “Хто знайшоў 15-ты том збору твораў Адама Мальдзіса, просьба вярнуць у бібліятэку”.**

Прачытала аб'яву адна студэнтка і падумала: Адама Міцкевіча я ведаю, а Мальдзіса, які напісаў пятнаццаць тамоў, зусім не чытала. Пайшла ў бібліятэку. Супрацоўнікі праверылі па картатэцы і сказалі, што ёсць працы Мальтуса і то яны ў спецфондзе, а кніг Мальдзіса няма ні там, ні ў самой бібліятэцы.

Не ведала студэнтка, што сюды трэба прыйсці праз гадоў сорак, калі ў Адама Мальдзіса сапраўды будзе выдадзена пятнаццаць кніжак.



STATE OF MICHIGAN
OFFICE OF THE GOVERNOR
LANSING

JOHN ENGLER
GOVERNOR

December 18, 1995

Dear Friends:

As Governor of the State of Michigan, it gives me great pleasure to congratulate the Belarusian Digest on its 2nd anniversary.

Michigan is fortunate to count among its population many Belarusian-Americans who contribute significantly to our society, and we are proud to be the home of the Belarusian Digest. It is certainly an invaluable resource for Belarusian-Americans in our state and throughout the country. I applaud the paper's commitment to excellence, and I hope that it will continue to serve the Belarusian community for many years to come.

Once again, congratulations. Please accept my best wishes for continued success.

Sincerely,

John Engler
Governor



STATE OF ILLINOIS
OFFICE OF THE GOVERNOR
CHICAGO 60601

JIM EDGAR
GOVERNOR

December 7, 1995

Nicholas Prusky
Editor
Belarusian Digest
1086 Forest Hills Avenue S.E.
Grand Rapids, Michigan 49546

Dear Mr. Prusky:

As Governor of the State of Illinois, it is my pleasure to congratulate you on the 2nd anniversary of your publication the Belarusian Digest.

Your dedication and service to the Belarusian community are commendable. Your readers are fortunate to have the Belarusian Digest as an excellent source of national and community news. With your continued hard work, you will be able to serve the Belarusian American community for many more years.

On behalf of the citizens of Illinois, please accept my best wishes for an enjoyable anniversary and much continued success.

Best regards,

Jim Edgar
GOVERNOR

## *АБМЕН МЭДЫЧНЫМ ПЭРСАНАЛАМ, НАВУКОВАЯ СТАЖЫРОЎКА І ІНШ.*

Унівэрсытэцкая Дзіцячая Лячніца ў Пітсбургу, штат Пэнсыльванія ўжо ад даўжэйшага часу (больш як 5 год) цесна і плённа супрацоўнічае з мэдычнымі ўстановамі Беларусі. Шматлікія абмены мэдычным пэрсаналам вядуцца сыстэматычна, трэба сказаць з абодвух бакоў. Вядучую ролю ў гэтым амэрыканска-беларускім супрацоўніцтве адыгрывае Пітсбурскі унівэрсытэт, які каардынуе ўсю дзейнасьць. Кіруюць гэтай акцыяй шмат хто з працаўнікоў унівэрсытэту, але найбольш выдатнымі асобамі выдзяляюцца: праф. Тамаш Фолі і наша зямлячка — др. Марыя Дэмковіч.

Можна казаць, што амаль што-другі месяц нехта з Менску прыяжджае ў Пітсбург, або нехта ляціць у Беларусь. Пераважна гэта групы лекараў або навукоўцаў. Вось-жа нядаўна адляцела група беларускіх лекараў у Менск, як зноў прылятаюць сюды спэцыялісты ў студзені, а пазьней вялікая група ў лютым на чале з рэктарам мэдычнага інстытуту ў Менску.

Паўстае пытаньне: хто-ж фінансуе такую дзейную акцыю абмену і стажыроўкі мэдычнага пэрсаналу, бо каштуе гэта сотні тысяч даляраў... Дык вось-жа, фінансуецца гэтая акцыя амэрыканскім урадам так і самым унівэрсытэтам у значна меншай меры. Амэрыканцы беларускага паходжаньня ў гэтай дзейнасьці фінансава не ўдзельнічаюць, бо ў гэтым, фактычна, няма ніякае патрэбы...

А вось вялікая падзяка для праф. Томаса Фолі, др. Марыі Дэмковіч і шмат каму яшчэ належыцца ад шчырых сэрцаў амэрыканскіх беларусаў. м.

# Чатыры гады таму распаўся СССР

"ЗВЯЗДА"

## Што думаюць новыя дэпутаты пра СНД?

**8 снежня спаўняецца 4 гады з дня стварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Цяпер да гэтай даты ставяцца па-рознаму, хоць ніхто і не выступае за роспуск СНД. Гэтая абрэвіятура цвёрда прыжылася ў нашым палітычным жыцці. Перспектывы ўдзелу Беларусі ў супрацоўніцтве ў рамках СНД шмат у чым залежаць ад новага Вярхоўнага Савета. Таму мы вырашылі пацікавіцца стаўленнем да гэтай арганізацыі некалькіх новых дэпутатаў Вярхоўнага Савета XIII склікання.**

**Павел ЗНАВЕЦ, дэпутат ад БСДГ:**

— Да СНД я стаўлюся нармальна, я хачу, каб яна і надалей існавала і ператварылася ўрэшце ў адну з аўтарытэтных міжнародных арганізацый кшталту Еўрапейскага саюза, Лігі арабскіх дзяржаў ці Арганізацыі амерыканскіх дзяржаў, іншых класічных арганізацый рэгіянальнага і міжрэгіянальнага супрацоўніцтва краін.

**— Чаму ж СНД не працуе так эфектыўна, як гэтыя арганізацыі?**

— Прычын тут шмат, але галоўная з іх, на мой погляд, тая, што ў гэтых рэспубліках дзейнічаюць розныя палітычныя рэжымы — ад дэмакратычнага, як у Малдове, на Украіне, да таталітарных і аўтарытарных, як ва Узбекістане, Туркменістане.

**— Павел Кірылавіч, а асабіста вы шкадуеце аб развале СССР?**

— Па-першае, гэта няправавы тэрмін — развал, яго нельга ўжываць: развяліцца можа картачны домік, а дзяржава, у прыватнасці СССР ці ЧССР, можа распасціся. Юрыдычна можна ўжываць толькі тэрмін «распад». Што датычыць распаду СССР, то гэта натуральная з'ява, рана ці позна таталітарныя дзяржавы распадаюцца. А найвялікшым дасягненнем для нас з'яўляецца тое, што гэты распад адбыўся без буйнамаштабных войнаў. Таму лічу СНД адзіным правільным цывілізаваным выйсцем са становішча, якое склалася ў 1991 годзе. Дзякуй Богу, што мы атрымалі тады незалежнасць, якой нам трэба вельмі даражыць.

**— Ці можна павіншаваць Вас з днём 8 снежня?**

— На жаль, яшчэ рана, бо гэты дзень не стаў святам. Вось калі СНД добра запрацуе, калі ва ўсіх краінах СНД усталююцца дэмакратычныя рэжымы і як след будзе развівацца шматбаковае супрацоўніцтва ва ўсіх галінах, вось тады мы будзем нейкім чынам адзначаць гэты дзень.

**Валерый ШЧУКІН, дэпутат ад ПКБ:**

**— Як вы ставіцеся да СНД?**

— Як да пераходнага перыяду да стварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

**— Якім чынам?**

— Вельмі проста: праводзяцца рэферэндумы ў Расіі, Беларусі, Украіне...

**— Колькі будзе рэспублік, партый і прэзідэнтаў у новым СССР?**

— Рэспублік і партый столькі, колькі захочуць быць, а прэзідэнты нам увогуле непатрэбны. У нас заўсёды было савецкае, парламенцкае кіраванне.

**— А хто вінаваты ў тым, што распаўся Савецкі Саюз?**

— Я. Бо калі падпісалі дакументы ў Віскулях, я не стаяў на плошчы перад Домам урада і вокны ў Вярхоўным Савеце не біў.

— А што вы рабілі?

— Думаў. Занадта доўга думаў.

**— А хто акрамя вас вінаваты?**

— Народ вызначыць, хто вінаваты. Я мяркую, што суд усё-такі будзе.

**— Над вамі?**

— Калі я вінаваты — значыць, нада мной... Над вінаватымі за развал Айчыны павінен адбыцца суд, і яны павінны панесці кару. Я разумею, што цяпер іх не пасадзіш. Да таго ж Шушкевіча юрыдычна не падступішся, яго подпіс ратыфікаваны Вярхоўным Саветам, але назваць яго віноўнікам трэба...

**— Ці лічыце вы, што незалежнасць беларускай дзяржавы мае якую-небудзь каштоўнасць?**

— Разумееце, незалежнасць вызначаецца таўшчынёй кашалька. Палітычная незалежнасць другасная ў адносінах да эканамічнай. Сёння мы не маем незалежнасці, бо крэдытары ставяць нам умовы, МВФ камандуе што рабіць, які мець дэфіцыт... Амерыканскім заканатворцам ніхто не ўказвае, якія законы прымаць, яны не прыносяць да нас на праверку свае законы, а мы ім — нясём. Вось калі Амерыка будзе ў нас грошы пазычаць, тады мы будзем незалежныя.

**— Дык 8 снежня для вас дзень святочны ці жалобны?**

— Жалобны...

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, дэпутат ад АГП:**

**— Маеце вы свае адносіны да СНД?**

— Натуральна, да СНД нейкіх закончаных адносінаў няма, таму што і сама структура гэтая развіваецца. На мой погляд, само стварэнне такой структуры было абумоўлена гістарычнымі падзеямі, якія адбываліся на прасторах былога Савецкага Саюза. На сённяшні дзень пэўныя складанасці ў гэтай структуры звязаны з тым, што асновай міждзяржаўных пагадненняў павінны быць двухбаковыя дагаворы. І на гэтыя пагадненні павінна лажыцца сама структура СНД. Я думаю, што ў яе ўсё-такі ёсць перспектыва — у вырашэнні эканамічных пытанняў перш за ўсё. Таму для Рэспублікі Беларусь удзел у СНД павінен вызначацца толькі адным: нацыянальнымі інтарэсамі. Калі ёсць гэтыя інтарэсы хоць у нечым, мы павінны ўдзельнічаць. Але не па ўсіх пытаннях. Напрыклад, я лічу непрымальным у адносінах да СНД дагавор аб калектыўнай бяспецы.

**— Ці шкадуеце вы аб распадзе СССР?**

— Нейкі чалавек добра сказаў, што той, хто не шкадуе аб распадзе вялікай дзяржавы, той не мае сэрца, а хто кліча вярнуцца да мінулага — не мае галавы. Я думаю, што мая пазіцыя якраз у рэчышчы гэтых слоў. Не, я не шкадую аб Савецкім Саюзе. Вопыт Еўрасаюза паказвае, што можна дасягнуць таго, што было ў СССР, як адсутнасць тых жа мытняў, там дзе паважаюцца правы чалавека, дзе існуе перaліў капіталу, грошай, паслуг — усё гэта можна зрабіць толькі ў больш цывілізаванай форме, на больш высокай ступені інтэграцыі.

**— А для вас 8 снежня свята ці жалоба?**

— Для мяне гэта звычайны працоўны дзень. Сёння, мяркую, нам не трэба распальваць нейкіх палітычных і ідэалагічных спрэчак вакол віскулёўскіх пагадненняў, СНД. Да гэтага трэба падыходзіць як да факта гісторыі. На сённяшні дзень клікаць вярнуцца назад — гэта проста палітычныя спекуляцыі. Трэба ісці наперад.

**Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

Заўважце, камуніст Шчукін, дабраўшыся да сярэдняе ўлады, збіраецца ўжо судзіць.. Зусім пасталінску...

# Іван Каратчэня аб гісторыі і пэрспектывах СНД

**Напярэдадні чацвёртай гадавіны з дня заснавання СНД у яе мінскай штаб-кватэры адбылася сустрэча з журналістамі выканаўчага сакратара Садружнасці Незалежных Дзяржаў Івана Каратчэні.**

Ён падрабязна спыніўся на прычынах развалу СССР, у прыватнасці, вялікай ролі ў гэтым кампартыі Расіі. Увогуле, экскурс Каратчэні ў гісторыю, які быў і, пэўна, яшчэ будзе сведкам важных падзей, варты асобнай буйной публікацыі. Што, думаецца, ён з часам і зробіць у жанры мемуарнай літаратуры. І, хто ведае, можа падорыць свету бестселер.

За чатыры гады ў СНД склаліся свае традыцыі, у тым ліку і не самыя лепшыя. Напрыклад, кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў у сваім вузкім коле пры абмеркаванні той ці іншай вострай праблемы звычайна дэманструюць поўнае адзінства наконт яе вырашэння. Пасля гэтых размоў, шчыра прызнаўся Каратчэня, ён адчуваў сябе як на крылах — нарэшце справы зрушацца.

Але потым атрымлівался ўсё наадварот. На ўзроўні экспертаў пачынаюцца спрэчкі, прэтэнзіі, непаразуменні. У выніку многія прынятыя на вышэйшым узроўні дакументы сёння не працуюць. Чаму? Не супадаюць інтарэсы ўдзельнікаў СНД.

А вось калі супадаюць... Напрыклад, поўнасцю былі выкананы, а ў пэўнай частцы нават перавыкананы дакументы, якія былі накіраваны на разбурэнне былой таталітарнай дзяржавы. А што датычыць забеспячэння калектыўнай бяспекі, дык тут назіраецца іншае. На працягу паўтара года генеральны сакратар, якога кіраўнікі дзяржаў прызначылі адказным за выкананне адпаведнага дагавора, не толькі не здолеў скамплектаваць свой апарат, але нават не атрымаў якой-небудзь фінансавай дапамогі на выкананне сваіх абавязкаў. І зноў гэта пытанне ўнесена ў парадак дня чарговай сустрэчы кіраўнікоў СНД.

Іван Каратчэня прызнаў, што СНД сёння працуе марудна, запаволена, але разам з тым ён адзначыў, што заклікі асобных палітыкаў да стварэння канфедэрацыі ці федэрацыі не маюць пад сабой рэальнай глебы. Пакуль няма паўнацэннай замены СНД.

Як прыклад жыццяздольнасці Садружнасці Каратчэня прывёў нядаўняе пасяджэнне ў Мінску Міждзяржаўнага савета СНД па нафце, газу і энергарэсурсах. У ім удзельнічалі прадстаўнікі Венгрыі, Чэхіі, Славеніі, Славакіі, Харватыі. А год назад толькі ішлі размовы аб адкрыцці доступу краінам Усходняй Еўропы ў СНД. Сёння гэта рэальнасць.

Натуральна, журналісты не маглі не спытаць субяседніка пра яго апошнюю сустрэчу з Барысам Ельцыным. Каратчэня сказаў, што прэзідэнт Расіі знаходзіцца ў выдатнай форме. Яны падрабязна абмеркавалі парадак дня маючай адбыцца сустрэчы кіраўнікоў СНД, наогул сітуацыю ў Садружнасці.

Пытанні да Каратчэні тычыліся розных аспектаў дзейнасці СНД. У тым ліку вялікай актыўнасці Турцыі ў развіцці яе адносінаў з былымі савецкімі рэспублікамі Сярэдняй Азіі. Ці не закончыцца гэта супрацоўніцтва, у рэшце рэшт, выхадам іх з СНД і стварэннем саюза з Турцыяй? На што Іван Міхайлавіч заўважыў: за існаванне СНД трэба змагацца. І не скупіцца на выдаткі на падтрымку арганізацыі. За ўсё трэба плаціць, у тым ліку і за ўплыў на пэўныя рэгіёны планеты. Нездарма Турцыя бясплатна вучыць афіцэраў для армій Казахстана, Азербайджана, краін Сярэдняй Азіі. Пракладвае дарогі да іх граніц. Па словах Каратчэні, ідзе барацьба паміж Расіяй, Турцыяй і іншымі дзяржавамі за Сярэднюю Азію і Каўказ. І Расія ў гэтай дыпламатычнай барацьбе дапусціла збоі. Не выпадкова сёння ведамства Козырава крытыкуюць з усіх бакоў, у тым ліку і за няўдалую знешнюю палітыку ў Сярэдняй Азіі.

Дарэчы, аб фінансаванні Выканаўчага сакратарыята СНД у Мінску Іван Каратчэня прывёў наступныя лічбы. Утрыманне сакратарыята абыходзіцца значна танней, чым, скажам, для былога СССР ці Расіі — не самага маленькага пасольства за мяжой. Яго бюджэт на будучы год складзе 12,5 млрд. рублёў. Палову выдаткаў бярэ на сябе Расія, 18 працэнтаў — Украіна, 9 — Беларусь, Казахстан, Узбекістан, іншыя — каля 5 працэнтаў. Такім чынам, доля большасці краін — мізэрная. Але, тым не менш, узнос не плацяць Азербайджан, Грузія і некаторыя іншыя ўдзельнікі СНД.

Як прызнаўся Іван Каратчэня, не заўсёды складваюцца належныя адносіны з мясцовымі беларускімі чыноўнікамі — як былымі, кэбічаўцамі, так і новымі, «вертыкальшчыкамі». Яны праяўляюць правінцыяльную падазронасць да дзейнасці сакратарыята, што перашкаджае яго нармальнай рабоце. Гэта тым больш незразумела і дзіўна, што выканаўчы сакратарыят прызнаны на высокім міжнародным узроўні.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

**ЗВЯЗДА**

# ГУРТУЙМАСЯ, ПРЫХІЛЬНІКІ КОЛАСА!

**Ствараецца новая грамадская арганізацыя — Фонд Якуба Коласа, якая мае на мэце аб'яднанне ўсіх, хто гатовы працаваць дзеля ўшанавання імя народнага песняра Беларусі.**

Мяркуецца, што ў гэтым месяцы адбудзецца ўстаноўчы сход фонду. Ініцыятыўная група запрашае ўсіх жадаючых прыняць у ім удзел і паведамляе, што звяртацца трэба па адрасу: ***220012, Мінск, прасп. Ф. Скарыны, 66-А, музей Я. Коласа. Тэлефон 32-35-53.***

Стваральнікі фонду рады бачыць усіх, хто неабыякавы да беларускай культуры, яе традыцый, да творчай спадчыны Якуба Коласа, хто любіць і памнажае нацыянальныя здабыткі свайго народа. Фонд хоча аб'яднаць у сваіх радах не толькі тых прыхільнікаў Якуба Коласа, што жывуць на роднай зямлі, але і тых, што апынуліся ў далёкім і блізкім замежжы.

«Толькі разам, толькі грамадой мы можам шмат зрабіць, — адзначаецца ў звароце ініцыятыўнай групы, — каб багатая творчая спадчына народнага песняра жыла, а цудоўныя, непаўторныя мясціны, звязаныя з імем Якуба Коласа, захаваліся, былі канчаткова даведзены да ладу, набылі статус запаведніка і сталі месцам наведання турыстамі, гонарам беларускай нацыі».

**Таццяна АНТОНАВА.**

# Новы сьцяг і гэрб — бальшавіцкі...

Нядаўна кіраўнік Адміністрацыі Прэзыдэнта Беларусі Міхаіл Мясніковіч выдаў спэцыяльны загад аб выкананьні ўказа прэзыдэнта "Аб некаторых мерах па забясьпячэньні статуса дзяржаўнай сімволікі". Згодна з гэтым распараджэньнем дзяржаўны сьцяг і дзяржаўны гэрб Рэспублікі Беларусь да 15 сьнежня гэтага году павінны быць устаноўлены ў ва ўсіх магчымых урадавых месцах... Што прымусіла таварыша Міхаіла так завіхацца з "сьцягам і гербам". Відаць нейкая прычына існуе... Ён добра ведае, што новы сьцяг і гэрб чужыя беларускаму народу і таму ўводзіць іх трэба сілаю...

**У Замежжы ніхто гэтых бальшавіцкіх сімвалаў не прызнаваў, не прызнае і прызнаваць ня будзе...**

Далейшыя

*АХВЯРАВАНЬНІ*

на кніжыцу

**"Фальклёр Стаўпеччыны"**

| | |
|---|---|
| 9. Янка Каваленка | $20.00 |
| Папярэднія ахвяры: | $258.00 |
| Разам: | $278.00 |

Да патрэбнае сумы не хапае яшчэ каля $70.оо даль.

Хто наступны?

* * *

*Mińsk nie rzuca się w oczy, podobnie zresztą jak cała Białoruś. Jadąc z Polski do Rosji trudno nawet zorientować się, gdzie się ten kraj zaczyna, a gdzie kończy: granicy na Bugu strzegą Rosjanie, granicy pod Smoleńskiem od pewnego czasu nie strzeże nikt.*

*Rzeczpospolita, nr 268*

**„Широка страна моя родная, много в ней лесов, полей и рек", але дзе той свабодна дыхаючы чалавек?**

"НІВА"

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Паважаны Сп. Прускі!

Шчыра дзякую за газэту "Беларускі Дайджэст". Гэта няпроста газэта, гэта роднае слова, гэта наша культура, гэта наша мова на якой мы гаворым з маленства.

Віншую ўсіх чытачоў і тых хто робіць газэту з Калядамі і з Новым 1996 годам.

Посьпехаў Вам у вашай нялёгкай працы.

З павагай, сям'я С.

*Дзякуем за ахвяру і прыгожыя словы.*

Паважаны Мікола!

Жадаем усяго найлепшага з нагоды Калядаў: шчасьця, здароўя, добрага настрою і вытрымаласьці ў выдавецкай працы — вельмі важнай.

Не пакідай выдаваць "Дайджэст" Залучаю ахвяру. А. і К. М.

*Хоць і цяжка, але будзем старацца. Жадаем Вам таксама ўсяго найлепшага.*

Высокапачэснае Спадарства Прускія!

Шчыра вітаем Вас з Калядамі і жадаем шмат здароўя, посьпехаў і вытрымаласьці ў Вашай надзвычайнай грамадзкай і выдавецкай працы, а таксама ласк Гасподніх у Новым Годзе.

Якуб з сям'ёй.

*І Вам жадаем усяго найлепшага. Дзякуем за ахвяру.*

Вельмі Паважаны Спадар Прускі!

Я вельмі люблю чытаць газэту "Беларускі Дайджэст". Перасылаю пасільную ахвяру на выдавецкі фонд газэты...

Таксама далучаю верш "Вогнішча", думаю, што ён мае патрыятычны зьмест. Калі знойдзецца месца надрукуйце...Можа верш гэты зацікавіць чытачоў і ў Замежжы і на Бацькаўшчыне.

Дзякую, з пашанаю, Я. А.

*Дзякуем за ахвяру і друкуем Ваш верш...*

*ВОГНІШЧА*

Падкладайце браты
Сюды дрэўцаў хутчэй,
Каб ня згас наш агонь,
Каб сьвяціў ён ярчэй.
Тым, хто ў цемры жыве,
Каб пылаў гэты сьвет,
І асьвечваў душу
Ім згубіўшым свой сьлед.
Каб нам шлях прамяніў,
Ды вякамі гарэў,
І бяздольным людзям,
Каб іх сэрцы сагрэў.
Дык пылай ты агонь...
Гэй, ярчэй, ты, пылай!
І сваім зіхацьцём
Асьвяці ты наш край.
Не шкадуйце драўна
Мае сёстры, браты.
Хай пылае ў душах
Гэты вогнік сьвяты.
Каго люты мароз
Сваёй сілай скаваў,
Каб гарачы агонь
Сэрцы ім аграваў.
Асьвяці наш народ,
Каб з каленяў устаў.
Разагрэй, разбудзі
І ад гора пазбаў...

*Янка Журба*

Здароў Мікола!

Дзякую за напамін аб ахвяры. Я пра гэта не забыўся, але неяк так склалася... Жонка была 5 разоў у шпіталі і я 2 разы... Дасюль няма канца аплачваць дактароў... Пры гэтым высылаю ахвяру на газэту...

Адносна газэты, дык яна добрая. Ня ведаю, як Ты здабываеш матэрыял. Дый работы мабыць вельмі шмат. Ты ахвярны і працавіты беларускі патрыёт. Жадаю Табе здароўя і посьпехаў... З пашанаю, В. Ш.

*Усе мы старэем, маем розныя недамаганьні, але падаць духам ня трэба. Усё залежыць ад Бога...*

Здароў Дарагі Мікола!

Пры гэтым залучаю частку ліста ад майго пляменьніка-хрэсьніка, які атрымаў пару дзён таму назад. Раней я думаў, што ён дзесьці там у маскоўскім моры "ўтапіўся". Аказваецца я памыляўся. Праўда, ён піша па расейску, але-ж аднекуль узяў словы Якуба Коласа, бо іх падае пабеларуску. Прашу высылаць яму "Беларускі Дайджэст"...

Трымайся, В. К.

*Пастараемся выканаць просьбу. Зьмяшчаем урывак з ліста...*

..Вясной у 1995 годзе ў нашым месьце, — Петрапаўлаўску-Камчацкім арганізавалася беларускае зямляцтва. Як дагэтуль у нашай арганізацыі налічваецца 50 нашых землякоў. Наша арганізацыя маладая і ня мае канкрэтных плянаў працы, але нашым галоўным заданьнем зьяўляецца аб'яднаньне ўсіх беларусаў пражываючых у нашым рэгіоне. Я буду вельмі рады, калі дзядзька пастараецца, каб у беларускай прэсе ў Амэрыцы зьявілася вестка пра нашу арганізацыю на Камчатцы. І хоць наша арганізацыя малалікая, але яна будзе ўплываць на разьвіцьцё беларускага нацыянальнага духу на далёкай Камчатцы...

Паважаны Сп. Прускі!

Дзякую за газэту. Перасылаю Вам ахвяру на выдавецтва газэты. З нагоды надыходзячых сьвят жадаю Вам Вясёлых Калядаў і шчасьлівага Новага 1996 Году. Жадаю таксама добрага здароўя, каб у далейшым маглі выдаваць газэту і працаваць на карысьць беларускага народу.

З пашанай, П. Б.

*Удзячныя за ахвяру, жадаем і Вам усяго найлепшага.*

Вельмі Паважаны Сп. М. Прускі!

Дзякую Вам за працу над газэтай "Беларускі Дайджэст", якая заўсёды прыходзіць на час і прыносіць весткі аб беларускім жыцьці. Часам бывае сумна, а часам радасна. Газэту мы любім... Залучаю ахвяру ўжо на 1996 год.

З пашанай да Вас, Ул. Т.

*Прыгожыя словы нас цешаць, а за ахвяру дзякуем.*

Добры дзень Спадар Прускі!

Прымеце, калі ласка, маю скромную ахвяру за такую цікавую газэту. "Беларускі Дайджэст" чытаю я з вялікім зацікаўленьнем, даслоўна перажоўваю да самага апошняга слова. І так жадаю Вам посьпехаў на доўгія гады.

П. П.

*Нам прыемна чуць, што людзі любяць нашу газэту. Дзякуем.*

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ, ПРЫХІЛЬНІКІ І ЧЫТАЧЫ!

Яшчэ адзін год мінуў у маруднай і цяжкай працы пры выданьні нашай газэты. Жаліцца на цяжкасьці выдавецкай дзейнасьці ня будзем, бо нас і так ніхто не зразумее... Вельмі павольна, але за апошні год газэта больш упэўнена стала на ногі... Дарагія сябры і спагаднікі! Дапамажэце нашай незалежнай беларускай газэце ў наступным годзе яшчэ больш узмужнець, пашырыцца і ўдасканаліцца!

Ніжэй публікуем гадавую Лісту-сьпіс людзей добрае волі, якія — адны больш, іншыя менш, — выдатна фінансава дапамаглі нашай газэце. Вялікае і шчырае Вам Усім **Дзякуй!**

**Нашы спагаднікі, якія прыслалі сто (100) або больш даляраў у 1995 годзе:**

Янка Аўдзей
а. Міхась Бурнос
Кастусь Вайцяхоўскі
Паўла Гуз
Браніслаў Даніловіч
др. Марыя Дэмковіч
Нікодым Жызьнеўскі
Зоя Жэлезоўска
Віталі Кажан
Юрка Каляда
Міхась Каленік
Таня Кананчук (BAWA)
**Анатоль Лук'янчык**
Аляксандр Лашук
Ванда Махнач
Надзя Мароз
Іпаліт Паланевіч
**Уладзімер Ракуць**
**др. Мацей Смаршчок**
Янка Сурвіла
Мікола Сьнежка
Мікола Сенька (Анг.)
Уладзімер Траскевіч

**Нашы спагаднікі, якія прыслалі (90) дзевяноста або менш даляраў у 1995 годзе.**

Юлія Андрусышын
Мікола Абрамчык
Міхась Александар
А. Аай
Грэгоры Арцюшэнка
Янка Азарко

Віктар Балтрусевіч
Лёнгіна Брылеўскі
Людвіка Беленіс
Міхась Белямук
Васіль Багдан
Людміла Бакуновіч
Павал Брушкевіч
Надзя Барт

Каця Вініцкая
Уладзімір Валаткевіч
Мікола Вайтовіч
Кастусь Верабей
Янка Валюкевіч
В. Ваксэліс
Л. Высоцкі

Янка Грушык
Мікола Грэбень
Каця Грынкевіч
Францыс Говард
Ірэна Гайдзель
Мікола Галоўка
Вольга Грыцук
Галіна Гэльвіг
В. Грышчук
С. Гарбачук
Сяргей Грамыка
Казя Гайшун

Алег Дубяга
Алла Дубяга
Барыс Данілюк
К. Дыброва

др. Міхась Жылік
Уладзімір Жарскі

Расьціслаў Завістовіч
Аўген Занковіч
Пятро Зыбайла
А. Замагільны
Алесь Захаркевіч
Надзя Запруднік

а. Вячыслаў Ільчук
Мітр. Ізяслаў

Кляра Кумэйша
Мікола Кучура
Лявон Кавалёў
Уладзімір Курыла
В. Касьцюкевіч
Ю. Касьцюкевіч
Аўген Кабяка
Мікола Касьцюк
Надзя Касмовіч
др. Вітаўт Кіпель
Яраслаў Калюцік
Ліда Катовіч
Люба Корчык
Янка Каваленка
Марат Клякоцкі
Кастусь Калоша
Міхась Калядка
Іна Каханоўска
Слава Карніловіч
Пятро Касаты
Н. Кузьміцкі
Алексы Кузьміч
Алекс Касперовіч
Яніна Каханоўска
М. Кавыль

Мікола Латушкін
Аркадзь Ліхач
Дзмітры Левіт
Леанід Літаровіч

Валя Мазуро
Уладз. Машанскі
Арсень Монід
Кастусь Мерляк
Сяргей Мажэйка
Пятро Манькоўскі
Гас Маталыцкі
Стывэн Махакей
Станіслава Мільгай
Л. Міллер
Алекс Міраеўскі
А. і Л. Махнюк
Андрэй Мацукевіч

Юзэфа Найдзюк
Пётра Нядзьведзкі
др. Уладз. Набагез
Юрка Наумчык
В. Нафрановіч
Р. Нафрановіч
Янка Навагрудзкі
Леанард Норык
Алесь Непень
Пятро Нягода

Уладз. Пелеса
Пятро Пікулік
Міхась Пашкевіч
Аўген Протас
Васіль Плескач
Тамаш Петроскі
Элеонора Пітушка
Фёдар Паўлавец

др. Вітаўт Рамук
Уладзімір Русак
Янка Раковіч
Барыс Русак
В. Ракуць
Міхась Рагалевіч
Васіль Русак

Масей Сяднёў
др. Язэп Сажыч
а. Карп Стар
Гэнрык Сенкевіч
Уладз. Сенько
а. Міхась Страпко
Мікола Сагановіч
Міхась Сіцько
Аркадзь Сацэвіч
Пятро Сыркоўскі
Валтэр Сітнік
С. Сарока
а. Анатоль Сегень
Ірэна Сядура
А. Стукаліч
Якуб Сапяжынскі
Ірэна Сьмірноў

Александар Тэлеш
Міхась Тулейка
а. Максім Таўпека
др. Лявон Трусэвіч
Уладзімер Траскевіч
Гая Д Тэдонэ

Антон Філістовіч

Янка Ханенка

Ірэна Цупрык
А. Цярэшка
Віталі Цярпіцкі

Таіса Чабатарэвіч

Станіслаў Шабовіч
Лявон Шурак
Янка Шымчык
Александар Шастак
Т. Шуляка
Васіль Шчэцька
А. Шарко

Янка Юхнавец

Васіль Ягоўдзік
Астап Яраховіч
Валянтына Яцэвіч





***Выбачайце, калі каго не дагледзелі...***